**Цана 30 мк.**

Год I. Вільня, 5 лістапада 1922 г. № 9.

# ВЫЗВАЛЕНЬНЕ НАРОДУ

## Тыднёвая Народная Газэтка

**Орган П. Н. П. „Вызваленьне“ Віленскай і Наваградзкай земляў.**

Цана нумару 30 марак.
Газэтка каштуе з паштовай перасылкаю, ў месяц 150 марак.
Без паштовай перасылкі ў месяц 100 марак.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Мастовая вул., 1, Народны Дом „Одродзэне“. Тэлефон 618.**
Рэдакцыя адчынена ад 1—2 і 4—5 г.

**Абвесткі:**
Цэлая старонка. . . . . 10.000 мк.
1/2 старонкі . . . . . . 5.000 „
1/4 „ . . . . . . . 3.000 „
Дробныя абвесткі. . . па 100 „ за радок.

*Кіраўнік Рэдакцыі: ЛЮДЗЬВІК ХОМІНСКІ пасол Сойму. Сябры Рэдакцыі: С. Ваяводзкі, Ф. Галавач, С. Бальлін, В Шакун, Б. Ігнатовіч, Я. Драздовіч. М. Дварэцкі, А. Шапель.*



## Аб Сэнаце.

Калі гэты нумар нашае газэткі дайдзе да вас, чытачы, дык ужо пэўна будзе пасьля выбараў у Сойм

За некалькі дзён даведаемся ці працоўны народ выйграў, ці прайграў вялікую бітву? Ці сяляне з рабочымі праз сваіх прадстаўнікоў будуць пісаць законы ў Сойме, ці абшарнікі, паўпанкі, спэкулянты й ксяндзы? Ці ўрад будзе далей фабрыканцка-панскі, ці зьменіцца на лепшы, справядлівы—народны?

Даведаемся, ці народ ужо зразумеў, дзе яго справа й інтэрас, ці пабачыў сваю простую, шырокую дарогу да волі й зямлі-карміцелькі, ці пачуў голас свайго Вызваленьня?

Калі пры выбарах у Сойм мы выйгралі, дык з радасьцяй і далейшай ахвярнасьцяй будзем будаваць нашае новае, вольнае жыцьцё.

Калі мы прайгралі—дык будзе блага, дык чакае нас далейшая, цяжкая барацьба.

Але так, ці йначай мусім памятаць, што маем перад сабою яшчэ адзін дзень бітвы, дзень **12 га лістапада**.

**У гэты дзень будзем выбіраць у Сэнат**. Мы, Вызваленцы, не хацелі Сэнату, галасавалі мы процi таго, каб быў у Польшчы Сэнат. Бо мы лічылі што толькі Сойм патрэбны, што **ніякага кантралёра працы Сойму ня трэба**, што Сэнат будзе толькі спазьняць тыя добрыя законы, якія прыме Сойм.

Але паны й паўпанкі (Вітосоўцы-Пястоўцы) перагаласавалі Вызваленцаў і Сэнат будзе.

А ўжо, калі ён будзе, дык трэба, каб у яго ўвайшлі чэсныя людзі, трэба, **каб усе вызваленцы галасавалі**. Бо калі народ ня будзе галасаваць 12 лістапада, **дык будуць выбраны адны эндэкі паны з гораду**. А тады будзе так, што, **калі што добрае пастановіць Сойм, дык Сэнат адкіне, скасуе, альбо затрымае спаўненьне**. Альбо — **ўся наша праца, ўся напружанасьць працоўнага народу, каб выйграць выбары ў Сойм змарнуецца**.

Дык-жа нікому нельга гаварыць, што „Сэнат непатрэбны, то й галасаваць ня буду“ — бо ці мы хочам, ці ня хочам, а Сэнат тымчасам будзе і трэба каб у ім сядзелі не паны-эндэкі й паўпанкі, але прадстаўнікі рабочых і сялян-вызваленцаў.

**Дзеля гэтага не шкадуйма яшчэ раз трудоў і ці сьнег, ці дождж, ці пагода — ўсе як адзін чалавек ідзем 12 га лістапада да выбарчае урны (скрынкі) і ўкіньма ўяе нашую 3.**

Галасаваньне у Сэнат адбываецца так сама, як і у Сойм — у тым самым доме й за той самы нумар **3**.

## Хто мае права галасаваць пры выбарах у Сэнат?

**12 лістапада у Сэнат павінны галасаваць усе мужчыны й кабеты, якім скончылася 30 гадоў і якія ня былі засуджаны у вастрог за забойства, альбо злadзейства.**

## Як ашукаліся тыя, што не галасавалі за „Вызваленьне“ за 3.

**Тыя, што галасавалі за 8** ашукаліся, бо паслы з 8 — гэта адны паны-эндэкі, якія і ў гэтым Сойме будуць галасаваць процi зямельнай рэформы, за душэньне парабкоў, за выкіданьне арэндатараў, за біцьцё паліцыяй, за ксяндзоўска-панскую ўладу. Да іхняга пасла ніводзін селянін ня зможа навет падыйсьці й ніколі не адтрымае ніякай падмогі.

**Тыя, што галасавалі за 6** (за Рады Людовыя) ашукаліся бо радзюком што папрыяжджалі да нас з Варшавы, толькі гэтага й трэ было, каб іх выбралі — назад паедуць у Варшаву і ўжо там і застануцца. Як будуць выбары, дык ізноў яны прыедуць па галасы, а тымчасам яны будуць галасаваць у Сойме, каб тутэйшая зямля была падзелена толькі паміж варшавякаў, галічан ды пазнанцаў, бо самі яны стуль паходзяць і толькі аб тамтэйшых людзях дбаюць.

**Тыя, што галасавалі за 1** (Пястоўцаў-Вітосоўцаў) ашукаліся, бо пястоўцы-кулакі будуць гэтак рабіць у Сойме, як рабілі: часта галасаваць разам з панамі, часта уступаць паном, памагаць паном парцэляваць за вялізныя грошы зямлю, так што зямлю купяць толькі багатыры ды амэрыканцы за даляры, а бедныя малазямельныя, або безьзямельныя ня змогуць купіць. Але затое самі яны далей будуць спэкуляваць, набіваць свой кішэнь, браць хабары за кожную падмогу селяніну ды іншыя вырабляць штучкі.

**Тыя, што галасавалі за 16** (Жыдоўска - нямецка - беларускі Блёк) таксама ашукаліся, бо аддалі свае галасы ня толькі за беларусаў, але й за капіталістых жыдоў і немцаў, якія разам з польскімі панамі будуць галасаваць проці польскага, беларускага і украінскага народу. Ашукаліся, бо ня ведалі, што іхнімі галасамі прайдуць у Сойм: віленскі рабін Рубінштэйн, капіталісты-сыяністы Выгодзкі, фабрыкант Гордон, банкір Грунбаум Іцка-Ісаак.

**Тыя, што галасавалі за 22** (панскае Зьеднаньне на крэсах) ашукаліся, бо спалохаліся старастаў, вураднікаў, паліцыі і бандытаў-балахоўцаў, выпушчаных афіцэрамі-рэакцыянэрамі з Белавежскае Пушчы, праз гэта памаглі яны паном варшаўскім афіцэром, якія ня хочуць ісьці з народам, памаглі яны тым, якія хочуць, каб усё было падзўнейшаму.

Бедныя, застрашаныя, цёмныя людзі, відочна ня бачылі, што сабе на шыю пятлю рабіць паном памагалі.

**Не ашукаўся толькі тыя, што** галасавалі за „Вызваленьне" за 3, бо іхнія паслы — гэта людзі тутэйшыя, якія ўвесь свой век бароліся з рэакцыяй, якія не спалохаліся ані вастрогу, ані лягеру у Стржалкове, якія маюць сваю клясавую праграму й ведаюць, чаго хочуць, якія аж да пераможы будуць бароцца за:

**1) зямлю, прасьвету і уладу для народу!**

**2) тое каб тутэйшая зямля належала тутэйшым безьзямельным і малазямельным.**

**3) адзін год вайеннай службы;**

**4) тое, каб беларусні й украінскі народ адтрымаў волю — аутаномію;**

**5) тое, каб вураднікамі маглі быць тутэйшыя людзі, бяз розьніцы веры й нацыянальнасьці;**

**6) тое, каб на чале Рэспублікі стаяў Язэп Пілсудскі, ня з эндэцкімі панскімі міністрамі, але з народнымі;**

7) за ўсё тое, што працоўнаму народу, а не паном будзе патрэбна.

---

Хто хоча, каб і пры выбарах у Сэнат „Вызваленьне" перамагло, хто хоча, каб зямля, улада і прасьвета сапраўды была для працоўнага народу, дык **хай так, як і у Сойм 5 лістапада** укіне свой голас-картачку з **3** у урну **12 лістапада.**

---

## Новыя скандалы у Пястоуцау (№ 1).

Няраз мы ўжо пісалі, што П. Н. П. Пяст, на чале якое стаіць Вітос-багатыр, гэта такая партыя, якая дапушчае да таго, што ў ёй працуюць і кіруюць ня толькі спэкулянты, але і проста зладзеі. Ужо й не палічыць тых выпадкаў, калі накрылі пястоўца злодзея, альбо спэкулянта. Слаўныя ўжо штучкі Вітосаўцаў з Дэйлідамі, слаўныя ўжо зладзеі Брылі, Гагаткі, Макухі (паслы Сойму ад Пястоўцаў). Нашыя тутэйшыя пястоўцы адказвалі нам, што гэтак ёсьць толькі ў Польшчы ды ў Галіцыі, але затое яны тут у Віленшчыне ўсе чэсныя й нічога супольнага з тымі зладзеямі ня маюць.

Тымчасам аказваецца, што й тутэйшыя пястоўцы (№ 1) трымаюць спаміж сябе зладзеяў, што й тутака ёсьць Брылі й Гагаткі дый яшчэ якія!

Вось жа аказалася, што „слаўны" Бэньяшэвіч, які разам з бышым лёкаем князя Чацьвяртынскага—Дуброўнікам, стаіць на чале саюзу здэмобілізованых жаўнароў — зьяўляецца злодзеем. Пасля пястоўцы дасталі ад ураду 114 коняў для здэмобілізованых. Гэтыя коні меў раздаць Бэньяшэвіч. Што-ж ён робіць? За каня, за якога самі заплацілі 40 тысячаў, бярэ ад здэмобілізаванага жаўнера 80 і то з варункам, што ўступіць ён у баеўку для біцьця вызваленцаў (на паноў-эндэкаў яшчэ ніколі не нападалі). Некалькі дзён таму ў Ашмянах зрабілі рэвізію кнігаў з рахункамі й аказалася што толькі на некалькіх канях Бэньяшэвіч зарабіў 164 тысячы! А колькі зарабіў на 114 канях яшчэ невядома. Пракурор распарадзіўся арыштаваць паваднра Бэньяшэвіча, але той уцёк. Бараніў гэтага злодзея, як мог яго прыяцель (а можа й хаўруснік) Дуброўнік, які выстаўлены ў Лідзкім вокрузе на другім месцы сьпіску № 1.

Бэньяшэвіч і Дуброўнік гэта галоўныя арганізатары партыі пястоўцаў-вітосоўцаў.

Апрача гэтага выясьнілася, што выступае па сьпіску № 1 пан Савіч, бышы ахраньнік з царскае тайнае паліцыі.

Прыгожая партыя, прыгожыя кандыдаты ў пасы!

Ці-ж знайдуцца людзі, якія за іх, за сьпісак № 1 будуць галасаваць?

---

Калі ужо у вас у вёсцы не засталося нашых нумаркоў — 3 — пасьля галасаваньня у Сойм, — дык куцеце БЕЛАЕ папеpы, парэжце на малыя картачкі, напішэце на іх 3 — нічога болей — і раздайце суседзям у вёсцы і у суседніх вёсках.

---

## Адказы Рэдакцыі.

Жыхару вёскі Казяны. Дарагі грамадзянін, займёмся Вашай справаю зараз пасьля выбараў. Напэўна Вашыя паліцыянты-бандыты Вончкоўскі, Сікорскі й Голэмбёўскі будуць сядзець за кратай.

---

Рэдактар-Выдавец С. Ваяводзкі. Друк. Ваеўскага у Вільні.